


№ 12 снежань 2011 г.

*О, Беларусь, мая шыпшына,*
*Зялёны ліст, чырвоны цвет!*
*У ветры дзікім не загінеш,*
*Чарнобылем не зарасцеш.*
***Ул. Дубоўка***

# Шыпшына

***Бюлетэнь Пастаўскай раённай арганізацыі***
***Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны***

***"Ты, мой брат, каго зваць беларусам,***
***Роднай мовы сваёй не цурайся..."*** ***Алесь Гарун***

## *У НУМАРЫ:*










# НАШЫ НАВІНЫ

***

1 снежня ў чытальнай зале Пастаўскай раённай бібліятэкі адбыліся чытанні па творчасці Максіма Багдановіча, якія ладзілі раённая суполка ТБМ і калектыў бібліятэкі. Перад прысутнымі выступілі з паведамленнямі Людміла Сяменас ("Жыццёвы шлях Паэта"), Тамара Храпавіцкая ("Гістарычныя падзеі пачатку ХХ стагоддзя"), Ігар Пракаповіч ("Творчыя здабыткі Максіма Багдановіча"), Аліна Латыш ("Максім Багдановіч пра беларускую школу і беларускую мову"). Вершы Паэта эмацыйна прачыталі паэтка Наталля Карнілава і вучаніца 7 класа гімназіі Віялета Сяменас.




***

У пачатку снежня пры актыўным удзеле сяброў ТБМ на мясцовым радыё была падрыхтавана перадача "Мой Багдановіч", у якой удзельнікі разважалі над творчасцю Паэта і чыталі яго вершы. Падобная перадача пад назвай "120-годдзю М. Багдановіча прысвячаецца…" запісана і на тэлеканале "Паставы-ТВ". Яна выйшла ў эфір 9 снежня, у дзень нараджэння Паэта. У праграме ўдзельнічалі А. Латыш, Л. Сяменас, Т. Храпавіцкая, В. Шышко, вучні школ горада. Перадачу можна паглядзець ў інтэрнеце на сайце пастаўскага тэлебачання.

***

8 снежня ў глядзельнай зале раённага Дома культуры прайшла літаратурна-мастацкая вечарына да 120-годдзя з дня нараджэння М. Багдановіча. Яна сабрала шмат прыхільнікаў творчасці Паэта і выклікала значны рэзананс у творчым асяродку раёна. Рэпартаж пра падзею чытаце ў гэтым нумары.

***

У дзень нараджэння М. Багдановіча 9 снежня ў Пастаўскім касцёле Св. Антонія Падуанскага адбылася ўрачыстая імша-падзяка Паэту.

***

15 снежня ў чытальнай зале Пастаўскай раённай бібліятэкі адбылася літаратурна-гістарычная вечарына. У час яе прэзентавалася новы зборнік паэзіі Ігара Пракаповіча "Снежны вэлюм шыпшыны" і яго дыск мультымедыйных прэзентацый "Чароўны край – Пастаўшчына". Таксама былі падвядзены вынікі літаратурнага конкурсу, які праводзілі пастаўская суполка ТБМ і рэдакцыя раённай газеты "Пастаўскі край" да 120-годдзя М. Багдановіча.

***

Старшыня раённай арганізацыі ТБМ І. Пракаповіч разам з Н. Пракаповіч 20 снежня выступілі на творчай сустрэчы з навучэнцамі Пастаўскага прафесійнага каледжа.



# ВЕЧАРЫНА ДА 120-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

Па ініцыятыве сяброў раённай суполкі Таварыства Беларускай Мовы, супрацоўнікаў раённай газеты, пастаўскай бібліятэкі, школ і іншых установаў культуры і адукацыі на Пастаўшчыне годна адзначылі 120-годдзе класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча. Былі праведзены



літаратурныя чытанні па творчасці Паэта, прайшоў конкурс чытальнікаў вершаў М. Багдановіча сярод школьнікаў, конкурс літаратурных твораў, а 8 снежня ў зале раённага дома культуры адбылася урачыстая літаратурна-мастацкая вечарына. Спалучэннем глыбіннага патрыятызму і тонкай лірычнасці была напоўнена праграма, якую падрыхтавала супрацоўніца дзіцячай бібліятэкі Людміла Сяменас, а правялі яе, выдатна патрапіўшы ў пачуццёвы настрой творчасці пісьменніка, вучні пастаўскай гімназіі Міхаіл Дзюшко і Маргарыта Сяменас. Прысутныя (а зала была амаль поўная) змаглі пазнаёміцца з жыццёвым і творчым шляхам Паэта, асобныя эпізоды якога адлюстроўваліся на вялікім экране падчас прэзентацыі. Вялікі эмацыйны зарад неслі выступленні ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці. Прыгожа гучала ў выкананні вакольнай групы настаўнікаў раёна песня на словы М. Багдановіча "Хмары", музыку да якой напісала яе кіраўнік Людміла Логінава. Пранікнёнымі і кранальнымі былі і іншыя песні на гэтай вечарыне. Іх выконвалі вучаніца СШ №1 Анна Антух ("Па-над белым пухам вішняў..."), вучаніца СШ №2 Анна Бекіш ("Слуцкія ткачыхі"), саліст Навінкаўскага клуба-бібліятэкі Канстанцін Сыгула ("Малітва" Я. Купалы). Выдатна



глядзелася выступленне групы гітарыстаў раённага аб'яднання пазашкольных установаў, якія выканалі "Зорку Венеру". Арганічна спалучалася з агульным матывам вечарыны тэатральная дзея на верш М. Багдановіча "Русалкі", які выканалі ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці з Варапаева. І нават нечаканы рэп на словы паэта выглядаў вельмі ўдалай імправізацыяй і выклікаў у гледачоў дружныя воплескі. Гэта і ня дзіўна:



большасць прысутных – моладзь і вучні старэйшых класаў. Хочацца спадзявацца, што той узнёсла-патрыятычны настрой, які панаваў у час вечарыны, закрануў глыбокія віры душ усіх прысутных, уліўшы туды свежыя струменьчыкі любові да ўсяго роднага – Бацькаўшчыны, народа, мовы...

***Ігар Пракаповіч***

## ВЕЧАР ПАЭЗІІ І ГІСТОРЫІ

Вечар паэзіі і гісторыі адбыўся 15 снежня ў раённай бібліятэцы. Вядомы пастаўскі паэт, гісторык і краязнаўца Ігар Міхайлавіч Пракаповіч прэзентаваў новую кнігу вершаў «Снежны вэлюм шыпшыны» і мультымедыйны дыск па гісторыі роднага краю «Чароўны край - Пастаўшчына». На «дэсерт» прысутных аматараў беларускага слова чакала надвядзенне вынікаў конкурсу «Мой Багдановіч", які ладзіўся раённай арганізацыяй грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны» і рэдакцыяй раённай газеты да 120-годдзя з дня нараджэння беларускага класіка.




Літратурная вечарына пачалася з прэзентацыі паэтычнага зборніка з рамантычнай назвай «Снежны вэлюм шыпшыны». «Начынне» кнігі было напісана аўтарам даўно, але некалькі гадоў яна вандравала па выдавецтвах і толькі сёлета ўбачыла свет. Дзякуючы нашаму славутаму земляку Уладзіміру Дубоўку Беларусь даўно асацыіруецца з шыпшыьшай (памятаеце яго класічнае «О, Беларусь, мая шыпшына...»?). Не абмінуў увагай гэты вобраз і Ігар Пракаповіч. У зборнік увайшлі вершы, паэма «Белая Панна» і пераклады замежных аўтараў. І. Пракаповіч лішні раз даказаў: беларуская мова вельмі гнуткая і мае агромністы патэнцыял для перакладаў. Некаторыя вершы са зборніка прагучалі і на літаратурнай вечарыне — рамантычныя, філасофскія, гумарыстычныя... Асобныя з іх пакладзены на музыку.



Увесь тыраж кнігі (300 экзэмпляраў) выкупіла ўпраўленне культуры Віцебскага аблвыканкама, але азнаёміцца са зборнікам можна будзе ў раённай бібліятэцы.



Другой часткай творчага мерапрыемства стала прэзентацыя мультымедыйнага дыска «Чароўны край - Пастаўшчына». Ён разлічаны ў першую чаргу на школьнікаў і змяшчае 34 тэмы пра гісторыю, геаграфію, культуру і асобныя населеныя пункты роднага краю ад старажытнага часу да нашых дзён. Інфармацыя пададзена ў даступнай форме,

насычана ілюстрацыямі, таму для дзяцей вельмі запамінальная.



Гэты дыск мае каштоўнасць і для дарослых. На жаль, сёння мала хто з нас дасканала ведае гісторыю не толькі свайго раёна, але і свайго населенага пункта. А яна ўтойвае столькі цікавага і незвычайнага! Інфармацыя, сабраная на дыску, — яскравае пацвярджэнне гатаму.

Закончылася літаратурная вечарына



падвядзеннем вынікаў конкурсу «Мой Багдановіч». Удзел у ім прынялі трынаццаць аўтараў. Умоўна конкурсныя работы можна падзяліць на дзве групы: вершы і публіцыстыка. Частка работ друкавалася ў нашай газеце. Большасць аўтараў адзначана.

***Іна Сняжкова***

## *Ігар Пракаповіч*

***Пагавары са мной на мове,***
***На нашай роднай, не чужой.***
***Адчуеш ты – у кожным слове***
***Душа яднаецца з душой.***

***І сэрца сэрцу адкрывае***
***Свае духоўныя сады –***
***Там салаўіны хор спявае,***
***Там смак крынічнае вады.***

***Там рэха продкаў прамаўляе***
***Малітвы светлыя здалёк,***
***Нібыта нас благаслаўляе***
***На добры шлях, на лёгкі крок.***

***У словах тых – надзеі нашы,***
***І нашы мары пра жыццё.***
***Калі мы з мовай – нас не страшыць***
***Ні гвалт, ні мор, ні забыццё.***

***...Пагавары са мной на мове,***
***Забудзь на час пра "языкі".***
***Няхай гучаць у кожным слове***
***І продкі нашы, і вякі!***

***Двое глядзелі на зорнае неба.***
***Першы сказаў: "Нас ахутала цемра.***
***Неба падобна на прорву без дна.***
***Мы ўжо гінем. Нас душыць бяда.***
***Нам не адбіцца ад хцівых лап.***
***Чорная стужка... У роце – кляп..."***

***Другі адказаў: "Я не веру хлусні!***
***Бачу святло! Усё неба ў агні!***
***Свабода і Воля сыходзяць да нас –***
***О светлы, о дзіўны, о велічны час!***
***Не смей больш пра цемру і зло гаварыць***
***Пакуль хоць адна ў небе зорка гарыць!***

***Двое глядзелі на зорнае неба.***
***Адзін казаў: "Зоры".***
***Другі казаў: "Цемра".***

# ПРАЗ ЧАС І ПРАСТОРУ

Лязг жалеза, тупат конскіх ног, крыкі раз'юшаных ваяроў, стогны паміраючых і навокал клубы пылу, які паступова асядае на зямлю, пакрываючы сабой ручаінкі крыві. І ў небе, па-над усім гэтым пеклам на зямлі, лунаюць сьцягі Вялікага княства Літоўскага, і вершнік на гэтых сьцягах стагоддзямі імчыць у сваёй бясконцай пагоні, баронячы сваю зямлю ад рознай нечысьці...

Прыкладна так выглядала сьпякотным ліпеньскім днём поле ля Грунвальда ў далёкім 1410 годзе. А можа гэта быў зусім і не Грунвальд, а Сінія Воды ў 1362 годзе, ці Орша ў 1514 годзе. Ды, па вялікаму рахунку, якая розьніца дзе і калі. Галоўнае іншае – тая самаахвярнасьць нашых продкаў, якія, апрануўшыся ў жалеза, сталі сталёвай сьцяной на шляху тых драпежнікаў, якія з усіх бакоў пастаянна паўзлі на нашу краіну.

Менавіта такія думкі пралятаюць у



галаве, гледзячы на тыя рыцарскія латы, якія прывёз у наш Пастаўскі музей полацкі рыцарскі клуб "Полацкі зьвяз". Распавядаць пра экспанаты, што прывёз клуб, асабліва няма сэнсу, бо яны адносяцца да ліку тых, якія лепш адзін раз убачыць, чым дзесяць разоў пра іх прачытаць. Я думаю, што цікавей як бы крыху "зазірнуць" далей за гэтыя жалезныя рэчы – убачыць, што і хто за імі знаходзіцца.

Бясспрэчна, што гэта людзі, якія ўсё гэта зрабілі. Калі глядзець на іх з кропкі гледжаньня сучаснага "нармальнага" чалавека, то яны вар'яты. Ну навошта выдаткоўваць свой вольны час, а галоўнае – грошы(!!!) на тое, што не заўсёды, ці ўвогуле не прыносіць прыбытку? Нармальны дарослы чалавек лепш гэтыя грошы аддасьць на тое, каб летам куды-небудзь у Турцыю на некалькі тыдняў з'ехаць, на марскім пляжы паваляцца. Ну, прынамсі, каб хоць якой каўбасы купіць, а то вон як падаражэла, а есьці ж нешта трэба. А гэтыя, ненармальныя, свае грошы на нейкія нікому непатрэбныя жалязякі выкідваюць. Вар'яты нейкія. Ці яшчэ зь дзяцінства ў цацкі не нагуляліся.

Як у свой час казаў Ф. Ніцшэ: "чалавек будучыні – гэта той, у каго самая доўгая



памяць". Гэтыя "вар'яты", якія аддаюць свой час і сродкі на гэтыя бескарысныя "жалязякі", не проста сядзяць недзе ў гаражы і кляпаюць гэтыя кальчугі. Для таго, каб зрабіць дасьпех дакладна такім, якім ён быў на самой справе, спачатку трэба вельмі грунтоўна паглыбіцца ў гісторыю Беларусі (таксама, з пункту гледжаньня "нармальнага" чалавека, занятак абсалютна непатрэбны, бо не дае грошай). А вывучаючы гісторыю сваёй краіны яны тым самым працягваюць сваю памяць у мінулае і становяцца тым самым ніцшэанскім чалавекам будучыні.

Узнаўляючы гісторыю сваёй краіны ў дакладных рэканструкцыях, гэтыя заўзятары тым самым дакранаюцца да жыцьця нашых продкаў, паміж імі усталёўваецца нябачная сувязь і іх Сусьвет адразу павялічваецца роўна настолькі, наколькі большы ў падзеях і глыбейшы у

часе перыяд яны сумелі ахапіць. Бо асабісты Сусьвет кожнага чалавека складаецца з сумы вопыта ўсіх людзей, якіх ён тым ці іншым чынам сустракае ў сваім жыцьці, нават калі гэта нашыя далёкія продкі. Застаючыся звонку такімі ж як і раней, ментальна такія людзі сягаюць на тысячагоддзі.

Любы "нармальны" чалавек можа зьдзівіцца, навошта гэтая будучыня, калі



я тут и зараз хачу на турэцкім пляжы паваляцца ды каўбасы паесьці? На гэта слушна заўважыў наш пастаўскі пісьменьнік Аркадзь Нафрановіч, аднойчы зайшоўшыся да нас у музей: для сьвіньні таксама галоўным у жыцьці зьяўляецца пажэрці чаго-небудзь ды ў брудзе паваляцца. Канешна, усе мы жывыя людзі, усім нам трэба есьці ды адпачываць. Але не трэба забываць, хто мы такія ёсьць і для чаго жывём на сьвеце. Гэтыя полацкія хлопцы не забываюць. Яны далучыліся да мінулага і праз прастору і час таксама атрымалі шлях у будучыню, нават калі яны самі гэтага не разумеюць. А наколькі ўсё гэта патрэбна кожнаму з нас, трэба вырашаць кожнаму асабіста.

***Вадзім Шышко***

# ПЛАН ДЗЕЙНАСЦІ
## грамадскага аб"яднання ТБМ імя Ф. Скарыны на 2012 год

1. Асветніцка-педагагічная праца

- з бацькамі, дзеці якіх пойдуць у дзіцячыя садкі і першыя класы ў 2010-2011 навучальным годзе;

- з бацькамі і іх дзецьмі, якія навучаюцца ў рускамоўных і беларускамоўных адукацыйных установах;

- з арганізацыямі і ўстановамі з мэтай прапаганды беларускай мовы і літаратуры;

- правядзенне курсаў беларускай мовы і беларусазнаўства;

- звярнуцца да дзяржаўных і недзяржаўных тэлеканалаў па дапамогу ў стварэнні беларускамоўных класаў.

2. Праца рэгіянальных арганізацый ТБМ па захаванні і адкрыцці беларускамоўных адукацыйных устаноў: збор подпісаў, лісты ў дзяржаўныя ўстановы, пікеты і інш.

3. Стварэнне інтэрнет-партала ТБМ і забеспячэнне яго дзейнасці.

4. Супрацоўніцтва з дзяржаўнымі структурамі па пытанні выкарыстання дзяржаўнай беларускай мовы, Міністэрствам сувязі па пытаннях выпуску беларускамоўнай прадукцыі.

5. Супрацоўніцтва з банкаўскімі структурамі па пытаннях афармлення на беларускай мове бланкаў, рэквізітаў і іншай банкаўскай прадукцыі.

6. Праца з прадпрыемствамі па ўкараненні беларускамоўнага афармлення выусканай прадукцыі.

7. Работа па пашырэнні кола падпісчыкаў і чытачоў на «Наша слова», «Новы час», «Верасень» і іншыя беларускамоўныя газеты і часопісы.

8. Правядзенне літаратурных сустрэч у межах кампаніі "Будзьма".

9. Святкаванне Міжнароднага дня роднай мовы. (21 лютага)

Правядзеяне пікетаў, сустрэчы з чытачамі (разам з пісьменнікамі і журналістамі). Першы этап

Агульнанацыянальнай дыктоўкі - 21 лютага (2-і этап -15 сакавіка, 3-і этап - 25 сакавіка).

10. Выданне «Правілаў дарожнага руху» на беларускай мове.

11. Правесці рэспубліканскую навукова-практычную канферэнцыю "Сучасны стан беларускага краязнаўства і валанцёрскі рух". (16 красавіка)

12. Краязнаўчы фестываль. (травень)

13. Выдаць насценны і кішэнны календары з нагоды 150 угодкаў паўстання 1863 года.

14. Выдаць паштоўкі да юбілеяў Я. Купалы, Я. Коласа, М. Танка.

15. Адзначыць Еўрапейскі дзень моў. (26 верасня)

16. Адзначыць наступныя даты:

**120 гадоў з дня нараджэння Адама Станкевіча**, беларускага грамадска-палітычнага і культурнага дзеяча, гісторыка, каталіцкага духоўніка. Памёр у 1949 г. (5 студзеня)

**120 гадоў з дня нараджэння Браніслава Тарашкевіча**, беларускага грамадска-палітычнага і культурнага дзеяча, акадэміка Беларускай Акадэміі навук. Загінуў у СССР у 1938 г. (8 студзеня)

**120 гадоў з дня нараджэння Рыгора Шырмы**, беларускага грамадскага і культурнага дзеяча, хормайстра, народнага артыста БССР і СССР, Героя сацыялістычнай працы. Памёр у 1992 г. (8 студзеня)

**70 гадоў з дня нараджэння Міхася Ткачова**, беларускага грамадска-палітычнага дзеяча, гісторыка, археолага, доктара гістарычных навук, прафесара. Памёр у 1992 г. (10 сакавіка)

**125 гадоў з дня нараджэння Алеся Гаруна**, дзеяча беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, пісьменніка. Памёр у 1920 г. (11 сакавіка)

**85 гадоў з дня нараджэння Вітаўта Кіпеля**, беларускага грамадска-культурнага дзеяча на эміграцыі, доктара геалогіі, ганаровага доктара Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Я. Купалы. (30 траўня)

**130 гадоў з дня нараджэння Янкі Купалы,** беларускага паэта, народнага паэта Беларусі. Загінуў у 1942 г. (7 ліпеня)

**200 гадоў з дня нараджэння Юзафа Крашэўскага**, беларускага польскамоўнага пісьменніка, гісторыка, грамадскага дзеяча. Памёр у 1887 г. (28 ліпеня)

**180 гадоў з дня нараджэння Людвіка Нарбута**, аднаго з кіраўнікоў паўстання супраць Расіі ў 1863 г. Загінуў у 1863 г. (26 жніўня)

**210 гадоў з дня нараджэння Ігната Дамейкі**, беларускага і чылійскага педагога, геолага, мінеролага, этнографа, прафесара. Памёр у 1889 г. (31 жніўня)

**100 гадоў з дня нараджэння Максіма Танка,** беларускага паэта, народнага паэта Беларусі. Памёр у 1995 г. (4 верасня)

**120 гадоў з дня нараджэння Зоські Верас,** беларускай грамадска-культурнай дзяячкі, пісьменніцы. (30 верасня)

**130 гадоў з дня нараджэння Якуба Коласа,** беларускага пісьменніка, народнага пісьменніка Беларусі. Памёр у 1956 г. (3 лістапада)

**75 гадоў з дня нараджэння Дануты Бічэль**, беларускай паэткі. (3 снежня)

**100 гадоў з дня нараджэння Фрыды Гурэвіч,** рускага археолага, кандыдата гістарычных навук. Памерла ў 1988 г. (19 снежня)

**14. Адзначыць юбілейныя даты сяброў ТБМ:**

**70 гадоў Анатолю Бароўскаму**, пісьменніку, сябру ТБМ. (12 траўня)

**80 гадоў Адаму Мадьдзісу**, беларускаму культуролагу, літаратуразнаўцу, пісьменніку, краязнаўцу, доктару філалагічных навук, прафесару. (8 жніўня)



*Шыпшына*
*Выданне Пастаўскай раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны*

Адказны за нумар: Наталля Пракаповіч

Адрас: 211875, горад Паставы, вул. Паркавая, 52. Тэл.: 02155-4-44-75

Вёрстка: Ігар Пракаповіч

*Рэдакцыя можа не падзяляць думкі аўтараў друкаваных матэрыялаў*

*Надрукавана на абсталяванні сяброў, распаўсюджваецца дарма*

*Наклад 100 асобнікаў*